Б 57727

# Чырвоная армія сёньня

П. Уральцаў

1932

Дзяржаўнае
Ваеннае
Выдавецтва
БССР



Б2 57727

Б 3/14642

# Чырвоная армія сёньня

П. Уральцаў

Б 57727

959

ир 3 р.

1932

Дзяржаўнае
Ваеннае
Выдавецтва
БССР




Бел. аддзел
1994



# ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ПАРТЫІ МАЦНЕЕ, УДАСКАНАЛЬВАЕЦЦА ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ.

## Дзіцё бальшавіцкай партыі

Ленін пісаў:

> „Каб абараняць уладу рабочых і сялян ад разбойнікаў, г. зн. ад памешчыкаў і капіталістаў, нам патрэбна магутная Чырвоная армія. Мы даказалі ня словамі, а справай, што мы можам стварыць яе, што мы навучыліся кіраваць ёю і перамагаць капіталістаў, ня гледзячы на шчодрую дапамогу зброяй і знаражэньнем, якую яны атрымліваюць ад багацейшых краін сьвету. Бальшавікі даказалі гэта справай [1]).

Бальшавікі стварылі Чырвоную армію. Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі расла, мацнела і перамагала Чырвоная армія на шматлікіх франтох грамадзянскай вайны.

Многія думаюць, што Чырвоная армія нарадзілася толькі ў агні грамадзянскай вайны. Гэта ня зусім

---

[1]) Ленін, т. XXIV, стар. 431, выд. 3-е.

так. Гісторыя зараджэньня Чырвонай арміі вядзе нас да першай рэвалюцыі—рэвалюцыі 1905 г.

Калі ў 1905 г. бальшавікі паставілі пытаньне аб практычным правядзеньні ўзброенага паўстаньня для зьвяржэньня царызму, вось тады і былі закладзены першыя асновы ўзброеных сіл пралетарыяту. III зьезд партыі ў красавіку—маі 1905 г. даручыў усім партыйным арганізацыям

> „прыняць самыя энэргічныя захады да ўзбраеньня пралетарыяту, а таксама да выпрацоўкі пляну ўзброенага паўстаньня і непасрэднага кіраўніцтва такавым, ствараючы для гэтага па меры патрэбнасьці асобныя групы з партыйных работнікаў".

Першыя ваенныя арганізацыі бальшавікоў, першыя баявыя рабочыя дружыны паказалі прыклад мужнасьці і адвагі. Яны гераічна змагаліся на барыкадах Пецярбургу, Масквы, Растову, Харкаву, Адэсы, на Каўказе, у Латвіі.

Вопыт гэтых першых пралетарскіх узброеных атрадаў бальшавікі ўлічылі ў дні лютага 1917 г. Тады пачала ствараецца Чырвоная гвардыя. Дастаткова сказаць, што ўжо ў ліпені 1917 г. у адным толькі Пецярбурзе атрады Чырвонай гвардыі налічвалі 10 тыс. байцоў пралетараў.

Толькі партыя бальшавікоў магла стварыць такую моцную ўзброеную сілу, якой зьяўляецца Чырвоная армія. Толькі пад кіраўніцтвам партыі Чырвоная армія магла ўзяць такія слаўныя перамогі. Лепшыя свае сілы, лепшых бальшавікоў-арганізата-

раў партыя кідала на ўмацаваньне магутнасьці Чырвонай арміі.

> „Кожны раз, калі падыходзіў цяжкі момант у вайне, партыя мабілізавала камуністаў, і ў першую галаву яны гінулі ў першых радох, тысячамі яны загінулі на фронце Юдзеніча і Калчака; гінулі лепшыя людзі рабочае клясы, якія ахвяроўвалі сабою, разумеючы, што яны загінуць, але яны выратуюць пакаленьні, выратуюць тысячы і тысячы рабочых і сялян“ [1]).

Выключную ўвагу аддаваў Чырвонай арміі Ленін, асабіста назіраючы і кіруючы ваенна-апэрацыйнай работай у дні грамадзянскай вайны. Тав. Сталін—адзін з самых выдатных арганізатараў і кіраўнікоў Чырвонай арміі. Лепшыя людзі партыі—Фрунзэ, Варашылаў, Арджанікідзэ і інш. аддавалі Чырвонай арміі і свае сілы і сваю энэргію. На задушэньне кранштадзкага мецяжу X зьезд партыі вылучыў каля 300 сваіх дэлегатаў.

Пад кіраўніцтвам партыі Чырвоная армія разьвіваецца, удасканальвае сваю падрыхтоўку і зараз у мірнай вучобе.

Партыя ні на мінуту не паслабляе ўвагі да пытаньняў умацаваньня баявой магутнасьці Чырвонай арміі. Яна заўсёды клапоціцца аб ёй, яна сочыць за яе ростам, яна кіруе і дапамагае ёй удасканальвацца, таму што небясьпека вайны проці СССР ня зьнята.

Чым цясьней сусьветны эканамічны крызіс сьцягвае шыю капіталізму, тым усё больш адкрыта і вы-

---

[1]) Ленін, т. XXV, стар. 134, выд. 3-е.

разна капіталісты рыхтуюць вайну. Падзеі на Далёкім Усходзе, у Манчжурыі і ў Шанхаі—гэта сыгналы ваяўнічых замыслаў імпэрыялістаў. Капіталісты шукаюць выхад з крызісу ў вайне, у першую чаргу ў вайне проці Савецкага саюзу.

„Асаблівасьць данага моманту заключаецца ў тым, што ўсё больш сьціраецца грань паміж мірным становішчам і вайной, упаўзаюць у вайну і ваюць і без адкрытага абвяшчэньня вайны.

Больш таго. Вядуць войны, генэральскай пятой папіраючы дзяржаўную незалежнасьць і нацыянальныя правы вялікага народу, і ў той-жа час выступаюць з прамовамі аб разбраеньні і аб міру ва ўрачыстай абстаноўцы міжнародных канфэрэнцый [1]).

Імпэрыялісты рыхтуюцца да новых войнаў. У першую чаргу яны рыхтуюць інтэрвэнцыю проці краіны соцыялізму—проці СССР. Ваенная прамысловасьць—адзіная галіна прамысловасьці ў капіталістычных краінах, якая працуе бесьперабойна, выкідваючы навейшую зброю зьнішчэньня.

„Усё гэта гаворыць аб тым, што мы толькі ў тым выпадку па сапраўднаму выканаем свае абавязкі, калі не дадзім сябе ўсыпіць ніякімі гутаркамі і ніякімі агульнымі рэзалюцыямі аб міжнародным становішчы. Мы павінны на справе праявіць ня толькі пролетарскі гераізм у будаўніцтве новага грамадзтва, але і сапраўдную пільнасьць і патрэбную гатоўнасьць да абароны крэўных інтарэсаў рабоча-сялянскае дзяржавы“ [2]).

Быць напагатове! Быць на варце!—такая задача.

---

[1]) Молатаў, уступнае слова на XVII партканфэрэнцыі.

[2]) Молатаў, уступнае слова на XVII партканфэрэнцыі.

Пад кіраўніцтвам партыі, яе ленінскага ЦК на чале з т. Сталіным Чырвоная армія—**армія абароны сацыялізму, армія абароны першай у сьвеце сацыялістычнай дзяржавы,** бязупынна, дзень за днём і месяц за месяцам узмацняе сваю баявую магутнасьць, зьяўляючыся непераможнай сілай і крэпасьцю пралетарыяту.

## Тэхніка ў будучай вайне.

> „Вайна ў цяперашніх умовах патрабуе вялізарнай колькасьці машын рознага прызначэньня, розных назваў і вялізарнай тэхнічнай складанасьці. Вайна мэханізуецца, машынізуецца, індустрыялізуецца, становячыся гэтым самым вялізарнай, вельмі складанай фабрыкай зьнішчэньня людзей“ [1]).

Вайна мэханізуецца, машынізуецца. Разьвіцьцё баявой тэхнікі дасягнула высокай ступені. На полі сучаснага бою пачынае шырока дзействаваць матор. Зьяўляюцца матарызаваныя і мэханізаваныя часьці, якія даюць магчымасьць далёка перакідваць вялікія масы войск, хутка захопліваць вялікія прасторы і разьвіваць вялізарную агнявую сілу. Расьце далёкабойная і скарастрэльная артылерыя.

Танкі і бронемашыны заваёўваюць вялікія прасторы дзействаў, новыя скорасьці, новае ўзбраеньне. Авіяцыя перамагае тысячакілёмэтравыя прасторы і нясе з сабой тоны сьмерцяноснага грузу, узброеныя тэхнікай дэсанты і новыя баявыя сродкі высокай магутнасьці.

---

[1]) Варашылаў.

Войскі насычаюцца кулямётамі і аўтаматычнай зброяй. Зьяўляюцца прыборы высокай дакладнасьці. Артылерыя, стралковая і інжынэрная справа, хімія і сувязь атрымліваюць новыя мэханізмы, якія ў дзесяткі разоў падвышаюць дзействы гэтых сродкаў. І ўсё гэта расьце і ўдасканальваецца.

Але бязупынны рост баявой тэхнікі ня можа выцiснуць з поля бою жывую сілу.

Будучая вайна патрабуе масавых армій. Узяць хаця-б танк або іншую броняваю машыну. Яны пасьпяхова дзейнічаюць толькі тады, калі знаходзяцца ў руху. А як толькі спыніліся, яны становяцца безабароннымі. Яны самастойна няздольны замацоўваць свае посьпехі, утрымліваць за сабою адваяваныя тэрыторыі. Патрэбна шматлікая пяхота. У тэзісах аб вайне і ваеннай небясьпецы, прынятых пленумам ВККІ ў 1927 г., гаворыцца:

> Будучая вайна—гэта вайна мэханізаваная. Кожная краіна будзеператворана ў вялізарную фабрыку сродкаў зьнішчэньня. Матору ў справе мэханізаванага забойства будзе належаць рашаючае месца. Але іменна таму, што ваенная тэхніка дасягнула вышэйшай ступені разьвіцьця, капіталістычным дзяржавам прыдзецца кідаць вялізарнейшыя масы ў раёны баявых дзействаў... Разам з тым, дзякуючы шырокаму ўжываньню авіяцыі, руйнавальнасьці навейшых бомбаў, далёкабойнасьці артылерыйскага агню, будзе сьцірацца розьніца паміж фронтам і тылам".

І буржуазія вельмі добра гэта разумее. Рыхтуючыся да вайны, яна рыхтуе масавыя арміі.

Калі ў імпэрыялістычнай вайне 1914 г. Францыя, Італ'я, Вялікабрытанія, ПАЗШ, Японія ў час мабі-

лізацыі разгарнулі арміі колькасьцю ў 5,5 млн. чалавек, дык ўжо ў 1931 г. яны былі падрыхтаваны разгарнуць арміі каля 9 млн. чалавек.

## Аваладваем баявой тэхнікай

Найвялікшыя перамогі сацыялізму адлюстроўваюцца ў вялізарнейшых зрухах, якія адбыліся ў нашай Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

Сацыялістычная прамысловасьць дае тэхнічную базу для Чырвонай арміі.

Мы навучыліся ўласнымі сіламі будаваць тэхнічна ўдасканаленыя сродкі барацьбы, робячы іх цалкам з савецкага матар'ялу. Дастаткова спаслацца на такія абразцы паветраных машын, на такія дасягненьні нашай авіяцыйнай, навуковай і канструктарскай дзейнасьці, як самалёт **„АНТ-14“**, **„Сталь-2“** і інш. Гэтыя дасягненьні ня толькі не адстаюць, а зьяўляюцца шагам наперад у параўнаньні з авіяцыяй капіталістычных краін.

А баец Чырвонай арміі? Ён—наша перавага, аб якой капіталістычныя арміі ня могуць нават і марыць. Наша армія—адзіны клясавы колектыў, зьяднаны навакол ленінскай партыі, адданы пралетарскай рэвалюцыі.

> **„Упяршыню ў сьвеце рабочыя і сяляне стварылі сваю ўласную армію, якая служыць не панам, а былым рабам, цяпер вызваленым рабочым і сялянам“ 1).**

---

1) Сталін. Прамова, прысьвечаная X гадавіне Чырвонай арміі, „Правда“ ад 8 лютага 1928 г.

Вялікая эпоха будаўніцтва сацыялізму перарабляе людзей, нараджае новага чалавека, чалавека з высокай палітычнай актыўнасьцю, беззаветнага байцаударніка, для якога праца стала справай гонару, справай славы, справай мужнасьці і геройства. У Чырвоную армію ідзе ўжо новы чалавек, у большасьці правераны ў напружанай героічнай рабоце. Новы баец і новая баявая машына—вось чым характэрны сёнешні дзень Чырвонай арміі.

Клясава сьвядомы баец Чырвонай арміі ўпарта змагаецца за бязупыннае падвышэньне баявой падрыхтоўкі. Высокая якасьць баявой падрыхтоўкі часьці і падразьдзяленьня—справа гонару кожнага байца Чырвонай арміі.

Баец у Чырвонай арміі ўсё вышэй падымае сваю клясавую сьвядомасьць, авалодвае ведамі ваеннай справы, авалодвае баявой тэхнікай, бо **„бальшавікі павінны аўладаць тэхнікай“**. Сталін.

У вучобе Чырвонай арміі аўладаньне тэхнікай займае самае першае месца. Байцы і камандзіры ў першую чаргу вывучаюць сваю зброю, тэхніку сваей часьці. Вывучаюць тэхніку і іншых родаў зброі, з якімі прыдзецца сумесна дзействаваць на палёх у сучасным складаным баі.

Шырэй разгортваецца тэхнічная прапаганда, тэхнічная вучоба. У гуртках, у экскурсіях, на выстаўках у наглядным паказе ідзе дэтальнае вывучэньне мэханізмаў матэрыяльнай часьці. Тэхніка патрабуе высокай культурнасьці. І гэтая тэхнічная культура выхоўваецца ў кожным байцу і камандзіру. Баец і камандзір упарта ўзяліся за кнігу, авалодваюць матэма-

тыкай, фізыкай, хіміяй. Тэхніка патрабуе і высокае дысцыплінаванасьці, культурных беражлівых адносін да мэханізмаў, якія дорага каштуюць, чоткасьці ў рабоце і вельмі вялікай увагі.

**Ніводнай аварыі, ніводнай паломкі**—пад гэтым лёзугам ідзе паход за тэхніку ў Чырвонай арміі.

На сёньня ёсьць ужо многа перамог, якімі можна ганарыцца. Гэтыя перамогі зьяўляюцца залогам таго, што мы поўнасьцю аўладаем складанай тэхнікай, якая да нас ідзе. Вось эскадрыльля авіяшколы ім. Варашылава. На працягу 15 месяцаў эскадрыльля ня мае ніводнай аварыі. А паміж тым яшчэ ня так даўно ў эскадрыльлі можна было чуць сумненьні ў магчымасьці лётаць зімой так, як і летам.

15 месяцаў назад асабовы састаў эскадрыльлі заявіў: **„Эскадрыльля будзе безаварыйнай“.** І ўдарнікі эскадрыльлі стрымалі бальшавіцкае слова: эскадрыльля—лепшая безаварыйная часьць школы.

Вось перамогі яшчэ адной эскадрыльлі. Эскадрыльля ім. Фрунзэ—безаварыйная. За дзьве гадзіны эскадрыльля выпускае ў поўнай гатоўнасьці 90—100 проц. усіх сваіх самалётаў. Поўнасьцю аўладала начнымі налётамі. Усе курсанты прайшлі начны пілётаж. Маладыя лётчыкі аўладалі страявым палётам у складзе зьвяна, а стараслужачыя—у складзе атраду. Дасягненьні экскадрыльлі—поўнае аўладаньне матэрыяльнай часьцю, нядрэнная стральба (асабліва ноччу), добрая здача тактычных заданьняў. Камандзір эскадрыльлі ім. Фрунзэ выхоўвае ў лётнага састава волявыя якасьці: быць сьмелым, мужным, адважным.

Аднойчы, напрыклад, у час вельмі цяжкага начнога пералёту эскадрыльлі ў буру і навальніцу ніводная машына не адарвалася, ня страціла ў сувязі з начальнікам.

Сотні і тысячы ўзораў аўладаньня баявой тэхнікай мае Чырвоная армія. Вось камандзір танкавага узводу т. **Кучухідзэ.** Ён упартай работай дабіўся выдатнай стральбы. На кулямётнай стральбе з 5 магчымых ён дае 5. У час стральбы з ходу на гранічнай скорасьці ён 8 кулямі паражае 6 мішэняў; з пушкі—з 5 магчымых дае 5. І чырвонаармейцы не адстаюць ад свайго камандзіра. Рэзультат стральбы ўзвода за год: з кулямёта—95 проц., з пушкі—80 проц. На апошняй інспэктарскай стральбе чырвонаармейцы далі 100 проц. выкананьня з кулямёта і пушкі. Ва ўзводзе няма такіх, што страляюць нездавальняюча,—ёсьць толькі выдатныя і добрыя стралкі.

У вадзіцеля танкавага палка т. Уласава машына без рамонту прайшла 2 тыс. *км.* На апошніх асеньніх занятках Уласаў ні на мінуту ня вышаў са строю. 3-я рота N мэханічнай часьці, якой камандуе Мураўёў, за ўсё лета ня мела ніводнага дысцыплінарнага праступку, ня было ніводнай аварыі, ніводнай паломкі машыны.

У пачатку лета стралкі толькі на 40 проц. выконвалі стральбу, а цяпер—на 80—85 проц. Танкеткі пачалі з 32 проц. і дайшлі да 65 проц.

6 тыс. палётаў бяз ніводнай аварыі і паломкі баявой машыны—вось гераічныя штодзенныя дасягненьні аднаго з лепшых лётчыкаў Чырвонай арміі.

## Сучасны бой

Сучасны бой—гэта агульнавайсковы бой. Гэта значыць—кожнае падразьдзяленьне, кожная часьць, кожны род войска павінны дзействаваць у поўным узаемадзействе з іншымі падразьдзяленьнямі, часьцямі, іншымі родамі войск. Бяз гэтага ўзаемадзейства няма посьпеху.

У чым галоўныя асаблівасьці сучаснага бою?

Вось што кажа па гэтым пытаньні намнаркамваенмора, т. Тухачэўскі.

„Пасьля імпэрыялістычнай вайны вельмі ўзмацнілася кулямётнае узбраеньне пяхоты. Гэта рэзка падвысіла здольнасьць пяхоты і ўсіх вайсковых злучэньняў да абароны. Таму наступленьне таксама патрабуе ад пяхоты добрага выкарыстаньня сваіх кулямётаў і майстэрскага манэўраваньня сумесна з іншымі родамі войск.

... Пяхотным частям даюцца пэўныя мэты для наступленьня. Для дасягненьня іх агульнавайсковы камандзір і яго штаб распрацоўваюць плян наступленьня і атакі... Кіруючыся гэтым плянам, артылерыя вядзе агонь так, каб расстроіць кулямётную аснову абарончай паласы праціўніка. Артылерыя такім чынам дае магчымасьць пяхоце своечасова зрабіць зблізкэньне, затым наступленьне, нарыхтавацца да атакі і атакаваць праціўніка. Танкі дапамогуць перамагчы штучныя перашкоды праціўніка, а таксама дапамогуць у далейшай атацы. У далейшым у час прабіваньня абарончай паласы праціўніка ва ўсю яе глыбіню безадказнае ўзаемадзейства пяхоты, артылерыі і танкаў павінна быць бязупынным.

... Пяхота выносіць на сабе галоўны цяжар бою, яна перамагае вялізарныя цяжкасьці тварам да твару з праціўнікам, вядзе агнявы і рукапашны бой і замацоўвае дасягнутую перамогу. Таму артылерысты, сьвязісты, хімікі, сапёры і іншыя спэцыялісты абавязаны ўсімі спо-

сабамі садзейнічаць пяхоце, палягчаць цяжкасьці яе баявой работы, дапамагаць ёй, дамагацца перамогі з найменшымі стратамі".

Гэта гаворыць аб тым, што кожны чырвонаармеец павінен разумець тактыку ня толькі свайго роду войск, але і тых, якія яго падтрымліваюць, абслугоўваюць, з якімі ён працуе разам.

Узаемадзейства выкоўваецца на палёх тактычных заняткаў, на зімовых і летніх атрадных, на выхадах у поле, на манэўрах. І тут Чырвоная армія мае ўжо ня малыя посьпехі і дасягненьні.

Байцы Чырвонай арміі, зьяднаныя навакол партыі, клясава сьвядомыя, ведаюць, чаму ім трэба моцна авалодаць баявой падрыхтоўкай. Яны упарта змагаюцца за ваенна-палітычныя веды, за самаўдасканаленьне, за заўсёдашнюю баягатоўнасьць сваіх часьцей і падразьдзяленьняў.

Усе ў Чырвонай арміі добра ведаюць і разумеюць, што—

„... кожны раз, калі капіталістычныя супярэчнасьці пачынаюць абвастрацца, буржуазія накіроўвае свой позірк у бок СССР: ці ня можна вырашыць тую ці іншую супярэчнасьць капіталізму, або ўсе супярэчнасьці, разам узятыя, за кошт СССР" [1]).

Кожны баец, кожны камандзір усе свае сілы, усю сваю энэргію, увесь свой парыў і творчую актыўнасьць укладае на бязупынны рост баявога ўдасканальваньня. Бо нездарма сацспаборніцтва і ўдарніцтва стала магутным вагарам баявой падрыхтоўкі,

---

[1]) Сталін. Пытаньні ленінізму, стар. 499, выд. 9-е.

яно пранізвае ўсе вучасткі баявой і палітычнай вучобы.

Байцы Чырвонай арміі вельмі добра разумеюць таксама, што—

> „Мы павінны будаваць справу так, каб у будучую вайну дамагчыся перамогі „малою крывёй“ і вайну гэту перавесьці на тэрыторыю краіны, якая першая падыме проці нас меч“ [1]).

# „САКРЭТЫ“ НАШЫХ ПОСЬПЕХАЎ

## Клясавасьвядомы баец—наша перавага

На ўсіх вучастках баявой падрыхтоўкі Чырвоная армія мае гіганцкія посьпехі. Яна мацнее, удасканальваецца з кожным днём. І сёньня яна мацней, чым учора. З поўнай сьвядомасьцю сваёй баявой магутнасьці, яна гатова абараняць краіну сацыялізму.

У чым „сакрэт“ нашых посьпехаў і бязупыннага ўдасканаленьня ў баявой падрыхтоўцы, у аўладаньні тэхнікай?

Па-першае, у той рашаючай перавазе, якую мае Чырвоная армія перад усімі капіталістычнымі арміямі: у той высокай клясавай сьвядомасьці і зьяднанасьці байцоў і начсаставу, аб якой ня могуць нават марыць арміі капіталізму.

> „У першы раз у сьвеце,—казаў У. І. Ленін на VIII зьезьдзе УсеКП(б),—створана армія, узброеная сіла, якая ведае,

[1]) Варашылаў.

за што яна ваюе, і ў першы раз у сьвеце рабочыя і сяляне, якія прыносяць неімаверна цяжкія ахвяры, ясна разумеюць, што яны абараняюць Савецкую сацыялістычную рэспубліку, уладу працоўных над капіталістамі, абараняюць справу сусьветнай пралетарскай сацыялістычнай рэвалюцыі“ [1]).

Вось гэта сапраўднае ўсьведамленьне байцом сваіх клясавых задач, за якія ён змагаецца ў радох РСЧА, зьяўляецца магутным вагаром для баявога ўдасканаленьня, для бязупынных посьпехаў у баявой падрыхтоўцы ў мірны час, для самаадданага гераізму, мужнасьці, адвагі, вытрыманасьці на палёх бою.

Тысячы фактаў, якія сьведчаць аб найвялікшай клясавай сьвядомасьці байцоў і камандзіраў Чырвонай арміі, якія самаахвярна абаранялі Краіну саветаў, запісаны ў гісторыю грамадзянскай вайны.

Вось прыклад з нядаўнай баявой праверкі на Далёкім Усходзе ў баёх з белакітайскімі бандытамі.

Уся баявая практыка АЧДУА паказвае стойкасьць і вытрыманасьць.

Адзін з удзельнікаў барацьбы з белакітайскімі бандытамі расказвае:

— Сувязь са штабам дывізіі перарвана. Белакітайцы перарвалі таксама сувязь з батарэяй Марчанка.

Кампалка цьвёрда загадаў:

— Паправіць сувязь... Зараз-жа.

— Есьць!

І камбатр памчаўся прыводзіць у выкананьне загад камандзіра палка. Праз некалькі сэкунд ён аддаваў ужо загад камандзіру аддзяленьня:

---

[1]) Ленін, XXIV, стар. 176, выд. 3-е.

—Таварыш Агародаў, зараз-жа папраўце сувязь. Вы ведаеце аб тым, што...

—Ведаю, таварыш камандзір батарэі, загадана зараз-жа паправіць сувязь з дывізіяй і батарэяй Марчанка, якая маўчыць. Есьць!

Агародаў кінуўся да свайго аддзяленьня.

... Мінуты здаваліся гадзінамі. Калі зьвернецца Агародаў? Ці скора ён наладзіць сувязь...

Знарады белакітайцаў ірвуцца ўсё бліжэй і бліжэй. У баку трашчаць дзесяткі кулямётаў, зьвіняць залпы белакітайскіх вінтовак.

Агародаў вярнуўся. Бледны стаяў ён перад камбатрам.

— Ня мог, таварыш камандзір, ніяк ня мог... Дваіх нашых хлапцоў ранілі, адзін напэўна ня выжыве...

Камбатр даклаў камандзіру палка:

— Сувязь з камандваньнем дывізіі і з батарэяй Марчанка наладзіць немагчыма. Пасланы для гэтай мэты камандзір аддзяленьня сувязі Агародаў вярнуўся назад. Сьмяртэльны ружэйны і кулямётны агонь праціўніка не дае магчымасьці...

Кампалка ня даў яму скончыць.

— Ідзеце...—махнуў ён рукою і адвярнуўся.

— Таварыш камандзір батарэі, дазвольце мне наладзіць сувязь.

Кампалка азірнуўся: перад камандзірам батарэі стаяў камандзір аддзяленьня сувязі Парфір Арлоў.

— Вы берацеся паправіць сувязь?

— Бяруся паправіць,— сур'ёзна адказаў Арлоў.
— Добра.
Пабеглі два камандзіры — Арлоў і Агародаў — наладжваць сувязь. Наперадзе бег Арлоў: ён вёў тэлефонную лінію.
Белакітайцы заўважылі, што дзьве фігуры, якія капошацца з праводкай, хочуць наладзіць лінію, паправіць пашкоджаньне, якое яны „змайстравалі" з такой цяжкасьцю.
Засьвісталі кулі навакол двух сьмельчакоў. Асабліва хацелі белакітайцы ўзяць на мушку таго, хто ўперадзе, хто вядзе лінію. Але Арлоў, не зварачваючы ўвагі на ружэйна-кулямётны агонь, які ўсё ўзмацняўся, бег наперад, цягнуў лінію, папраўляў пашкоджаньне, наладжваў сувязь і сваёй спакойнасьцю зацікаўліваў таварыша.
...Зазваніў тэлефон. Кампалка спрытна схапіў трубку.
— Гэта вы, таварыш Марчанка? Падрыхтуйцеся адкрыць агонь па заходніх варотах Сачагоў — там сканцэнтраваны белакітайскія кулямёты...
— Ёсьць.
У гэты час падбег засопшыся Арлоў.
— Малайчына!— крыкнуў яму камандзір палка, не адымаючы тэлефоннай трубкі.
... К ночы горад Сачагоў быў узят.
І яшчэ раз вызначыўся т. Арлоў, але ўжо ў баёх пад Лахусусу.
На грудзёх камандзіра аддзяленьня сувязі N артпалка т. Арлова Парфіра блішчыць ордэн Чырвонага сьцягу.

## Чырвоная армія— армія сусьветнай рэволюцыі

Нязьмерна вырасла рабочая кляса СССР. У вёсцы мы маем магутную армію сельскагаспадарчых рабочых—трактарыстаў, камбайнэраў, палyводаў.

Магутнымі тэмпамі расьце наша партыя. У яе радох звыш 2,5 млн. членаў і кандыдатаў.

Бурна расьце камсамол. Ён вырас з 3 да 5,5 млн. за адзін толькі мінулы год.

Адсюль папаўняе свае рады Чырвоная армія. Кожнай новай восеньню яна атрымлівае ўсё больш і больш каштоўны сацыяльны састаў.

Вось некаторыя лічбы па асобных часьцях.

Сярод папаўненьня 1931 году, прыбыўшага ў N артполк, партыйна-камсамольская праслойка складае 35 проц. (у 1930 годзе—12 проц). Рабочая праслойка павялічылася ў два разы. У 1930 годзе сярод сялян, прышоўшых у полк, было 90 проц. аднаасобнікаў і 10 проц. калгасьнікаў. У 1931 годзе суадносіны адваротныя—85 проц. калгасьнікаў і 15 проц. аднаасобнікаў.

Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што ў цяперашнім годзе рабочыя і калгасьнікі складаюць у Чырвонай арміі пераважную большасьць. Такі састаў РСЧА зьяўляецца важнейшай прадпасылкай і залогам выкананьня задач, якія пастаўлены перад Чырвонай арміяй. Сацыялістычная індустрыялізацыя і калектывізацыя сельскае гаспадаркі забясьпечылі Чырвонай арміі надзвычай каштоўны чалавечы матэрыял і тым самым вельмі высока паднялі яе баяздольнасьць.

Група маладых байцоў з Дзяржынску ў час разьбіўкі па ротах N стралковага палка зьвярнулася да камандваньня з просьбай:

> „Ці ня можна прызначыць нас усіх у адно падразьдзяленьне? Мы далі ў час провадаў Дзяржынскаму раёну абавязацельства быць першымі байцамі. Праз год мы будзем рапартаваць".

З гарадоў, вёсак і станіц вялікага Саюзу ў Чырвоную армію прыходзяць ударнікі сацыялістычнай вытворчасьці, энтузіясты калгасных палёў. Яны свой бязьмежны парыў, сваю творчую актыўнасьць, энтузіязм прынесьлі ў чырвоную казарму. Ударнікі будаўніцтва сталі ўдарнікамі баявой падрыхтоўкі. Баявая вучоба стала іх справай гонару, справай славы, справай мужнасьці і геройства.

Кожная чырвонаармейская часьць моцная па сваёй зьяднанасьці. Селянін і рабочы, рускі і татарын, грузін, яўрэй, баец і камандзір—увесь чырвонаармейскі калектыў, уся часьць цалкам, уся Чырвоная армія—дружная сям'я. Тав. Сталін казаў:

> „У капіталістычных краінах арміі звычайна выхоўваюцца ў духу нянавісьці да іншых народаў, у духу нянавісьці да другіх дзяржаў, у духу нянавісьці да рабочых і сялян іншых краін. Для чаго гэта робіцца? Для таго, каб зрабіць армію паслухмяным стадам, у выпадку ваенных сутычак паміж дзяржавамі, паміж краінамі. У гэтым прычына слабасьці ўсіх капіталістычных армій.
>
> Наша армія пабудавана на зусім іншых асновах. Моц нашай Чырвонай арміі заключаецца ў тым, што яна выхоўваецца з першага-ж дню свайго існаваньня ў духу інтэрнацыяналізму, у духу паважаньня да іншых народаў, у духу любові і павагі да рабочых усіх краін,

у духу захаваньня і ўмацаваньня міру паміж краінамі. І імення таму, што наша армія выхоўваецца ў духу інтэрнацыяналізму, у духу адзінства інтарэсаў рабочых усіх краін, імення таму яна, наша армія, зьяўляецца арміяй сусьветнай рэвалюцыі, арміяй рабочых усіх краін" [1]).

## Баец і камандзір

У капіталістычных арміях непрымірымыя супярэчнасьці паміж афіцэрамі і салдатамі. Інакш і ня можа быць. Пануючая ў капіталістычных краінах кляса камандуе і ў арміі. Афіцэры буржуазных армій—з буржуазіі і памешчыкаў, а салдаты—з рабочых і сялян. **Царскія генэралы так навучалі сваіх афіцэраў выхаваньню салдат:**

„Афіцэр, асабліва афіцэр гвардыі і сьвіты яго вялікасьці, г. зн. узброены прадстаўнік вышэйшай клясы, павінен памятаць, што ніякія папушчэньні да ніжэйшых чыноў дапускацца не павінны. Стоячы перад салдатам, забывай, што ён чалавек. Салдат ёсьць салдат, узброеная сіла, але сіла пакорная, несьвядомая сьляпая.

Сьвядомасьць для салдат таксама патрэбна, як для каня шоўкавыя чулкі. Афіцэр павінен раз назаўсёды прыняць да ведама, што салдат ёсьць мужык, жывёла, якая ўладае дарам мовы і толькі...

У гэтай салдафонскай адкрытасьці адлюстроўваецца клясавая сутнасьць капіталістычных армій, непраходная пропасьць паміж афіцэрамі і салдатамі.

Зусім ня тое ў нас. У Чырвонай арміі і баец і камандзір—адзін клясавы колектыў. І клясавая ад-

---

[1]) Сталін, Прамова, прысьвечаная X гадавіне Чырвонай арміі, „Праўда" ад 28 лютага 1928 г.

нолькавасьць і ў той-жа час непахісны аўтарытэт камандзіра—вось дзе невычарпальная крыніца нашай непераможнасьці, нашых посьпехаў у баявой падрыхтоўцы.

Правадыр Чырвонай арміі Клім Варашылаў—луганскі сьлесар. І на кожныя 100 камандзіраў 32 пралетары—сьлесары, такары, ліцейшчыкі, манцёры, астатнія—калгасьнікі і служачыя. Уся Чырвоная армія—ад наркома да байца—дружны калектыў.

Таварыская салідарнасьць байца і камандзіра сыграла найвялікшую ролю ў дні грамадзянскай вайны.

...Краіна абкружана кальцом узброеных белабандытаў.

Пад Роставам белыя захапілі сотню чырвоных байцоў з камісарам палка Ульфманам. Рыхтавалі крывавы баль.

У шэрую сьлякатню, непагадзь, разьдзелі палонных дагола і вывелі на гразную плошчу. Выстраілі. Белы палкоўнік выехаў на кані, сьцебануў палоньнікаў жалезным прутам і скамандваў:

— Хто добраахвотнікі, і чырвоныя камандзіры—дзесяць крокаў наперад. Шагам—арш!

Палоньнікі не шавяльнуліся.

— Хто камуністы і жыды—выходзь—са злоснай пенай шыпеў разгневаны палкоўнік.

Чырвоныя байцы маўчалі.

Гнеў палкоўніка ўзрастаў. Ен вырваў з радоў Ульфмана, павярнуў яго тварам да прыгавораных байцоў і закрычаў:

— Хто ведае гэтага басяка?

Ніхто не адказаў.

— Скажы вось ты, морда арыштанская, хто ён такі?—крычаў афіцэр, тыкаючы ў грудзі аднаму з байцоў рукаяткай шашкі.

— Ня ведаю.

Пачуўся стрэл, баец паваліўся на месцы.

Але 99 яшчэ напоўжывых гераічна маўчалі...

— Расстраляць усіх!

У жорсткіх клясавых баёх, перад тварам ворага, перад тварам сьмерці гэта праверка крывёю, праверка жыцьцём паказала высокую пралетарскую зьяднанасьць радоў нашай слаўнай Чырвонай арміі.

Вось выпадак на мірных манэўрах.

Праз мост ішоў абоз. Адна хурманка перакулілася і разам з байцом бухнула ў воду. Баец пачаў тапіцца. На мосьце сумятоха. Раптам у поўным паходным знаражэньні кідаецца ў воду камандзір Скрынін. Высокі мост, глыбокая і бурлівая рака. Камандзір схапіў тануўшага чырвонаармейца і прыплыў з ім на бераг.

Дзе, у якой арміі можа быць яшчэ што небудзь падобнае?

У гэтай зьяднанасьці байцоў і камандзіраў Чырвонай арміі—корань яе высокай дысцыплінаванасьці. Чырвоная армія моцная па сваёй жалезнай, сьвядомай дысцыпліне. Кожны чырвонаармеец сам змагаецца за падвышэньне дысцыпліны.

Трэцяя ўсеармейская нарада сакратароў ячэек кінула лёзунг: змагацца за часьць, за падразьдзяленьне без дысцыплінарных учынкаў. Гэты лёзунг вельмі папулярны ў Чырвонай арміі. Сотні і сотні падразьдзяленьняў яго ўжо рэалізавалі,—але не за кошт зьніжэньня патрабавальнасьці. Патрабавальнасьць

усё больш і больш падвышаецца. Дысцыпліна сёньня павінна быць вышэй, чым учора, бо Чырвоная армія аснашчаецца тэхнікай, а тэхніка патрабуе яшчэ большай чоткасьці, сагласаванасьці, паваротлівасьці і шпаркасьці.

Начальніцкі састаў Чырвонай арміі і партыйныя арганізацыі ўмеюць стаць на чале энтузіязму чырвонаармейскіх мас, умеюць накіроўваць гэты энтузіязм і магутную хвалю творчай актыўнасьці на важнейшыя вучасткі баявой падрыхтоўкі. І ў гэтым—вялізарнейшы залог нашых посьпехаў, іх дзейнасьці. Камандзір стаіць на чале сацспаборніцтва і ўдарніцтва, сыстэматычна кіруе імі.

Камандзір Чырвонай арміі зьяўляецца і палітычным выхавальнікам.

## Рыхтуючы войска, перш за ўсё рыхтаваць камандзіра

У Чырвонай арміі адведзены спэцыяльныя дні для камандзірскай вучобы. У гэтыя дні камандзір пад кіраўніцтвам старэйшага камандзіра папаўняе свае веды, удасканальваецца, пашырае свой ваенна-тэхнічны і ваенна-палітычны кругазор.

Асноўнае ў камандзірскай вучобе—аўладаньне тэхнікай і аўладаньне майстэрствам кіраваньня вайскамі.

Зусім ясна, што мала вывучыць тэхніку, засвоіць матэрыяльную часьць той ці іншай баявой зброі. Трэба ўмець гэтую баявую тэхніку выкарыстаць

у баі для замацаваньня перамогі над ворагам. Ня ўмець выкарыстаць тэхнічныя сродкі—гэта значыць кінуць дорага каштуючую тэхніку на волю лёсу.

У сучасным баі ўдзельнічаюць усе віды зброі. Бяз добра наладжанага ўзаемадзейства паміж пяхотай і бронясіламі, авіяцыяй і артылерыяй і іншымі родамі войск у сучасным баі нельга разьлічваць на посьпех. Камандзір Чырвонай арміі павінен дасягнуць высокаякаснага майстэрства кіраваньня боем.

І тут Чырвоная армія многага дасягнула.

Вось вучэбная характарыстыка камандзіра роты N стралковага палка **Сьвешнікава.**

**Дакумант № 1**

ВУЧЭБНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ЗА 1930 г.

„З вінтоўкі страляе добра, матэрыяльную часьць кулямётаў Максіма і Дзегцярова ведае нездавальняюча, страляе з іх нездавальняюча, з нагана страляе дрэнна".

**Дакумант № 2**

ВУЧЭБНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ЗА 1931 г.

„З усіх відаў зброі (вінтоўка, ручны і станкавы кулямёты, наган) страляе здавальняюча. На праверачнай стральбе даў па вінтоўках 100 проц. выкананьня, з ручных кулямётаў—72 проц., са станкавых кулямётаў—59 проц. Пры аглядзе зброі ня знойдзена ніводнага дэфэкту. Не аўладае яшчэ разьлікам сіл і сродкаў для выкананьня асобных баявых задач".

**ВУЧЭБНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ЗА ПЕРШЫ ПЭРЫЯД БАЯВОЙ ПАДРЫХТОЎКІ 1932 г.**

„Тэхнікай стральбы з усіх відаў зброі аўладаў вельмі здавальняюча. На інспэктарскіх стрэльбах па чацьвертаму практыкаваньню з вінтовак выканаў выдатна, з нагана—добра, са станкавага кулямёту—здавальняюча. Камандзірскую стральбу з кулямётаў выканаў добра. Разьлікам сіл і сродкаў для выкананьня асобных баявых задач аўладаў зусім здавальняюча. Вытварае арганізацыю бою разам з тэхнічнымі сродкамі, якія надаюцца роце“.

Вось характарыстыка памочніка камандзіра танкавага палка па тэхнічнай частцы **Вармашкіна**.

„Тав. Вармашкін—сапраўды спэцыяліст сваёй справы, узорны камандзір, які дасканала ўладае даручанай яму тэхнікай. У танкавым палку, куды ён прышоў камандзірам узводу, працуе шэсьць год, навучаючы байцоў майстэрству ўладаньня танкам і іншымі машынамі. Складаную тэхніку палка т. Вармашкін ведае вельмі добра. Ён дасканала аўладаў аўтамабілем, танкам, танкеткай, а галоўнае—навучыўся правільна ўжываць і выкарыстоўваць гэтыя тэхнічныя сродкі на палявых тактычных занятках. Асабліва ўважліва тав. Вармашкін вывучае новую тэхніку. За ўвесь час работы ў палку падразьдзяленьні, якімі, камандваў тав. Вармашкін, ня мелі ніводнай аварыі, а матэрыяльная часьць машын была заўсёды ў поўнай спраўнасьці“.

...Кіраўніцтва ротай—экзамен для т. **Эсіпава**, які ўпарта авалодвае пражэктарнай тэхнікай, паказваючы тут узор байцам. Асноўная пражэктарная станцыя, якая знаходзіцца на ўзбраеньні роты, т. Эсіпа-

вым засвоена. Ён можа на ёй працаваць любым нумарам разьліку.

Камандзірская вучоба. Дзень тэхнікі раз у дэкаду. Наган, работа ў майстэрнях па рамонце матэрыяльнай часьці, практыка ў разгортваньні і згортваньні станцыі, засваеньне матэрыяльнай часьці новых станцый, разьвязваньне тэматычных задач на гарадку—тэмы, якія стаяць у цэнтры камандзірскіх заняткаў.

Вучоба дапамагла Эсіпаву ісьці па ступеньках угору, засвойваць пражэктарную тэхніку і тактыку. На занятках мінулага году ён камандваў ротай, і ў роце ня было ніводнай паломкі, ніводнай аварыі. Тактычныя задачы выканаў добра. Такая ацэнка яго работы.

Камандзір Чырвонай арміі вучыцца. Ён удасканальвае свае ваенныя веды, ён падымае свой марксыцка-ленінскі ўзровень. У гуртках партасьветы, у камвузах, у завочнай сетцы—тысячы і тысячы камандзіраў. Вучоба ва ўсім напружаньні і парыве.

## Творчая думка ў дзействе

Байцы і камандзіры авалодваюць тэхнікай,—але ня толькі авалодваюць. Яны ўдасканальваюць, рацыяналізуюць тэхніку. Творчая актыўнасьць мас наглядней за ўсё праяўляецца ў шырокім размаху рацыяналізатарскага і вынаходніцкага руху.

Рацыяналізацыя і вынаходніцтва ў Чырвонай арміі накіраваны на ўдасканаленьне баявой падрыхтоўкі.

Вось рад паказальных фактаў...

Ня так даўно перад марскімі сіламі Чорнага мора ўзьнікла пытаньне аб неабходнасьці набыцьця за граніцай чатырох ацэтліхтароў тыпу „Н“. Кожны ліхтар каштуе 5 тыс. руб. золатам. Увогуле атрымліваецца кругленькая сума ў 20 тыс. рублей.

— „Ці ня можна ў нас, сваімі сіламі што-небудзь зрабіць, ці ня можна з'эканоміць гэтыя 20 тыс. руб. для нашай сацыялістычнай будоўлі?“—так паставіў пытаньне член партыі, рацыяналізатар т. **Красільнікаў.**

Калісьці ён плаваў памочнікам камандзіра на гідраграфічным судне „Санжийский“. Там было чатыры маячных аптычных апараты для вольтавай дугі. Пасьля гэтыя апараты прыбралі, і яны год пяць праваляліся без усялякага ўжываньня. Успомніў т. Красільнікаў пра гэтыя апараты. Распачаў над імі працу. У выніку апараты здаюцца ў майстэрні. Даюцца ўказаньні рабочым. Старыя ліхтары вольтавай дугі пераабсталёўваюцца пад ацэтаасьвятленьне. Уся гэтая работа абышлася ў 250 руб. Якасьць работы пераабсталяваных ліхтароў вельмі добрая, з-за граніцы ўвозіць іх не патрэбна. З'эканомлена 20 тыс. руб.

Вызваліцца ад імпарту! Гэтую задачу паставіў перад сабой т. Калінін, які працаваў на магутнай радыёстанцыі.

Некалькі год назад магутная радыёстанцыя атрымала ўдасканалены радыёперадатчык. Пачалася пабудова перадатчыка. Са строю вышлі некаторыя лямпы. Потым у працэсе работы цалкам былі выкарыстаны

і запасныя кампЛекты. Справа набыла такі характар: або набыць за граніцай, спэцыяльныя лямпы, заплаціўшы за іх золатам, або выкінуць зусім перадатчык. Рашылі: перадатчык павінен працаваць, а спэцыяльныя лямпы загранічнага тыпу замяніць савецкімі.

Тав. Калінін днём займаецца ў радыёрубцы, ноччу сядзіць за тэарэтычнымі абгрунтаваньнямі. Ужывае некалькі спосабаў, некалькі варыянтаў. Перамагае рад цяжкасьцяй.

Удача... Даецца пастаянны ток на генэратар, загранічная лямпа генэратара замяняецца савецкай. Радыёстанцыя працуе цяпер з максымальнай нагрузкай на савецкай лампачцы.

Гэтая работа т. Калініна пазбавіла ад ўвозу з-за граніцы лямп. Зьберажона залатая валюта.

Эканомія ў 2,5 млн. руб. золатам!

Рацыяналізатар-вынаходца ацэтцэху маячна-компаснай майстэрні т. Сямёнаў ня быў хімікам, але на працягу двух год вывучаў хімію, імкнучыся стварыць савецкую порыстую масу для газаакумулятараў.

Два гады упартай вынаходніцкай работы. Апошняя спроба порыстай масы адпавядала ўсім запатрабаваньням. Порыстая маса для газаакумулятараў вынайдзена. Гэтым вынаходніцтвам вырашана пытаньне аб выпрацоўцы яе ў Савецкім саюзе. Нядаўна мы ўвозілі з-за граніцы газабалёны каштоўнасьцю ў 250 руб. золатам.

Калі ўлічыць масавую патрэбнасьць у газаакумулятарах хаця-б толькі для маячнага асьвятленьня

для МСЧМ на працягу аднаго году, дык газаакумулятары, якія выпрацоўваюцца цяпер у нас, у нашай маячна-компаснай майстэрні, даюць 2,5 млн. эканоміі. Гэта толькі за адзін год і толькі для маячнага асьвятленьня на Чорным моры.

Дзесяткі і сотні прапаноў і вынаходніцтваў чырвоных байцоў і камандзіраў рэалізаваны. Гэта гіганцкі ўклад у справу баявой падрыхтоўкі.

## Сіла бальшавіцкага прыкладу.

Асновай посьпехаў у баявой падрыхтоўцы зьяўляецца работа армейскай партыйнай арганізацыі. Сіла яе бальшавіцкага прыкладу, арганізаванасьці, энтузіязму зьяўляецца сапраўды рашаючай!

У. І. Ленін аб ролі партыі ў грамадзянскай вайне пісаў:

> „Бяз партыі, жалезнай і загартованай у барацьбе, бяз партыі, якая карыстаецца дав[illegible]ем усяго сумленнага ў данай клясе, бяз партыі, як[illegible] ўмее сачыць за настраеньнем масы і ўплываць н[illegible] яго, весьці пасьляхова такую барацьбу немагчыма“ [1]).

У найбольш абвостраны пэрыяд грамадзянскай вайны 60 проц. усей партыі, г. зн. каля 300 тыс. камуністаў, змагаліся ў радох Чырвонай арміі. На самыя адказьнейшыя вучасткі, у самыя апасьлівыя месцы, там, дзе трэба было ліквідаваць паніку і разгубленасьць, дзе патрэбна была самаадданасьць,

---

[1]) Ленін, т. XXV, стар. 191, выд. 3-е.

стойкасьць і вытрыманасьць,—туды кідаліся камуністы. Там яны былі наперадзе. Пяцьдзесят тысяч бальшавікоў склалі свае галовы на франтох грамадзянскай вайны.

Слаўныя бальшавіцкія традыцыі камунараў жывуць у сэрцах армейскіх бальшавікоў і сёньня. З імі армейская партыйная арганізацыя будзе абараняць краіну сацыялізму.

У час адбою нападу белакітайцаў у манчжурскім кірунку кандыдат партыі **Іваноў** з агню праціўніка вынес раненага камандзіра ўзводу т. **Лосава.** Член партыі, **Дылгароў**, абкружаны праціўнікам, выцягнуў станкавы кулямёт. Кандыдат партыі **Маталаў** падбег да бліндажу праціўніка на 20 крокаў, кінуў гранату і прымусіў замаўчаць накіраваны адтуль агонь.

Іх, арганізатараў баявога гераізму, гатовых да самаахвяраваньня, многа...

Сіла бальшавіцкага прыкладу—найвялікшая сіла і ў мірнай вучобе. На кожныя 100 чырвонаармейцаў і камандзіраў прыходзіцца 57 партыйцаў і камсамольцаў. 57 проц —больш паловы саставу арміі. Ня цяжка зразумець, якую найвялікшую апору мае камандваньне і вырашэньне баявых задач.

Усеармейская нарада сакратароў ячэек дала такую дырэктыву.

> „Кожная партыйная ячэйка абавязана шчыльна падыйсьці да канкрэтных задач баявой падрыхтоўкі, з тым, каб прыкладнасьцю, сапраўды перадавой рольлю камуністаў і камсамольцаў, актыўнай дапамогай камандваньню ўзьняць баявую падрыхтоўку арміі на нябывалую вышыню“.

Гэтую дырэктыву партыйныя арганізацыі ўпарта і настойліва рэалізуюць. Ёсьць вельмі многа ячэек, якія ня маюць дысцыплінарных праступкаў. Баявая падрыхтоўка становіцца стрыжанем работы партарганізацыі. Авангардная роля армейскіх бальшавікоў у аўладаньні тэхнікай, у камандзірскай вучобе, у агнявой падрыхтоўцы—на ўсіх вучастках баявой вучобы забясьпечвае перамогу за перамогай. Партыйная арганізацыя дапамагае камандваньню ў вырашэньні задач баявой падрыхтоўкі, разгортвае соцспаборніцтва, мабілізуе масы на важнейшыя вучасткі.

І ў той-жа час армейскія бальшавікі ўшырыню і ўглыбіню] разгортваюць камуністычнае выхаваньне мас.

> „Сапраўды актыўная, канкрэтная дапамога камандваньню ў пытаньнях баявой падрыхтоўкі павінна быць цясьнейшым чынам увязана з узмацненьнем і паляпшэньнем палітычнага і культурнага выхаваньня байца і камандзіра. Гэтыя дзьве задачы нашай арміі шчыльна зьвязаны, зьліваюцца ў адну задачу, разьдзяляць іх нельга, вырашаць іх па частках, асобна кожную нельга. Трэба вырашаць абедзьве задачы як адну задачу".
>
> (Гамарнік).

Разуменьне ўнутранага адзінства баявой і палітычнай дасканаласьці—адна з рашаючых асаблівасьцяй нашай арміі, крыніца яе сілы і бязупыннага гіганцкага росту. У сучасных умовах сацыялістычнага будаўніцтва масавая палітычная работа зьяўляецца важнейшай зброяй партыйнага ўплыву на шырокія масы, узмацненьня штодзеннай сувязі з імі і мабілі-

зацыі ўзрастаючай актыўнасьці наўкол генэральнай лініі партыі.

„Наша патрабаваньне зараз да палітработнікаў і да камандзіраў: мацней націскайце на палітработу, паляпшаючы яе якасьць, не адставайце ад узроўню патрабаваньняў байца, а вядзеце яго політычна наперад.
Мы абавязаны найлепш, як мага лепш палітычна, марксыцка-ленінскі выхоўваць увесь асабовы састаў арміі, яднаць і ўзбройваць яго для барацьбы за партыю, за генэральную яе лінію, за справу рабочае клясы, за сацыялізм“ (Гамарнік.)

## ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ— ПЕРШАКЛЯСНАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ШКОЛА

Ленін аб палітычнай рабоце ў Чырвонай армі пісаў:

„Нашы перамогі сталі магчымы выключна дзякуючы ўзмоцненай партыйнай і культурна-асьветнай дзейнасьці ў радох Чырвонай арміі“ [1]).

Гэтым тлумачацца нашы перамогі і ў мірнай вучобе.

Чырвоная армія—першаклясная палітычная школа. Аснова гэтай школы, душа і мозг яе — партыйныя арганізацыі.

Армейская партарганізацыя зьяўляецца стойкім і моцным атрадам партыі і яе ЦК. Сваю бальшавіцкую стойкасьць і вытрыманасьць, сваю ідэйную

---

1) Ленін, т. XXIV, ст. 48.

загартаванасьць і зьядпанасьць яна дакавала і даказвае ў бязьлітаснай барацьбе за генэральную лінію партыі. Армейскія бальшавікі далі рашучы адпор контррэвалюцыйнаму трацкізму. Яны вядуць і будуць весьці непрымірымую барацьбу проці правага ўхілу—галоўнай небясьпекі на даным этапе, проці „левага“ апартунізму, прымірэнцтва, гнілога лібэралізму, двурушніцтва.

Армейскія бальшавікі ўпарта змагаюцца за падв... эньне свайго марксыцка-ленінскага разьвіцьця. Се... а партыйнай асьветы—школы, курсы, гурткі, камвузы, завочная сетка—ахапляюць амаль пагалоўна ўсю арганізацыю.

Уся ўнутрыпартыйная работа армейскіх парарганізацый накіравана на бальшавіцкую загартаванасьць, на падвышэньне ідэйнага ўзроўню камуністаў для работы ў масах.

Партыйныя арганізацыі змагаюцца за высокакваліфікаванага ў ваенных адносінах, палітычна сьвядомага байца Чырвонай арміі. Змагаюцца за камандзіра, які дасканала ўладае ваеннай тэхнікай, складанымі формамі бою, майстэрствам кіраўніцтва вайска..., ...літычна высока пісьменнага, уладаючага ярка выяўленымі валявымі якасьцямі,—рашучага, цьвёрдага і сьмелага кіраўніка сваёй часьці і падразьдзяленьня.

Партыйная арганізацыя і палітапарат праз палітзаняткі, праз масавую работу, праз клюб, бібліятэку, ленінскі куток, газэту, праз сеткі партыйнай асьветы, ўзбройваюць масы байцоў і камандзіраў камуністычным сьветапоглядам, яднаюць навокал генэральнай

лініі партыі і сацыялістычнага будаўніцтва, выхоўваюць іх у духу інтэрнацыянальнай салідарнасьці ўсіх працоўных.

Вось прыклад работы партарганізацый за апошні час. Байцы і начсастаў жыва адгукнуліся на апошнюю пастанову ЦК партыі і ўраду аб новым сельгаспадатку, аб хлеба-і мясазагатоўках і аб калгасным гандлі.

Гэтыя пастановы шырока прапрацоўваюцца на адкрытых партыйных і чырвонаармейскіх сходах, на палітзанятках з чырвонаармейцамі, у рабоце сярод начсаставу і членаў яго сем'яў. У рэзультаце масавай прапрацоўкі і шырока разгорнутай палітычнай агітацыі наваколл пастаноў падымаецца новая хваля энтузіязму. Байцы і начсастаў цалкам ухваляюць і вітаюць пастановы партыі і ўраду і абавязваюцца яшчэ больш узмацняць сваю баявую і палітычную падрыхтоўку.

Чырвонаармец N батальёну т. Абраменка заяўляе:

> „Чытаючы пастановы ўраду аб сельгаспадатку, хлебазагатоўках, я радаваўся і ганарыўся за свой рабоча-сялянскі ўрад. Такія пастановы можа выдаваць толькі рабоча-сялянскі ўрад краіны, якая будуе соцыялізм. Гэтыя дакуманты зьявіліся рэзультатам вялізарных посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва".

Чырвонаармеец таго-ж батальёну т. Пілат кажа:

> „Гэтыя гістарычныя пастановы яшчэ раз паказваюць, як партыя і ўрад зацікаўлены ў паляпшэньні становішча працоўных. Гэтыя пастановы выклікаюць у мяне яшчэ большае жаданьне падняць на вышэйшую ступень нашу баявую падрыхтоўку".

„Новы закон аб сельгаспадатку дасьць вялікі штуршок для далейшай соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі,—кажа баец палка Валаховіч, калгасьнік.— Новы закон заахвочвае ўзмоцненае разьвіцьцё тэхнічных культур“.

Байцы — сяляне-аднаасобнікі роты сувязі т. т. Леўчанка і Сакратараў пасьля прапрацоўкі закону аб сельгаспадатку заявілі, што яны пішуць дадому пісьма аб сваім уступленьні ў калгас.

Байцы і начсастаў моцна згуртаваны навакол партарганізацыі. На кожным кроку яны выяўляюць давер‘е сваёй партыі і стойка, самаадданна змагаюцца за яе генэральную лінію.

Дастаткова паказаць на ўсё ўзрастаючую цягу байцоў і начсаставу ў рады партыі. Тэмп росту армейскіх партарганізацый у 1931 г. падвысіўся на 37 проц. у параўнаньні з 1930 г. Узрасла і рабочая праслойка сярод прынятых. Калі на 1 студзеня 1931 г. рабочыя складалі ва ўсіх партарганізацыях РСЧА 62,2 проц., дык да сучаснага моманту процант рабочых узрос да 64,5.

Характэрнымі зьяўляюцца факты вялізарнай цягі начсаставу ў рады партыі. За 1931 г. каля 3 тыс. камандзіраў з сярэдняга, старшага і вышэйшага начсаставу прынята ў партыю. За той-жа тэрмін прынята ў партыю каля 20 тыс. малодшых камандзіраў.

Тысячы заяў аб прыёме ў партыю паступаюць у партыйныя арганізацыі.

„За нядоўгую службу ў Чырвонай арміі я многага даведаўся. Зразумела, што такое партыя, за што яна змагаецца. Хачу быць актыўным будаўніком сацыя-

лізму і прашу прыняць мяне ў рады партыі. Я многае набываю ў Чырвонай арміі і ня трымаю пры сабе, а перадаю свайму калгасу. За мае парады калгас выносіць мне падзяку",—піша чырвонаармеец Сухоцін.

Тысячы і тысячы Сухоціных перавыхоўваюцца ў Чырвонай арміі і выходзяць з яе з багажом ведаў і з партыйнымі білетамі.

У час барацьбы з белакітайскімі бандытамі чырвонаармеец *N* часьці перад боем заявіў сакратару партячэйкі:

„Слухай, друг. Ня хочу памерці беспартыйным. Калі заб'юць, лічыце мяне камуністам".

Чырвонаармеец, паміраючы ад ран, прасіў палітківраўніка:

„Паведамеце на радзіму, што я ПАМЁР КАМУНІСТАМ".

Зьяднанасьць байцоў і камандзіраў навакол партыі, навакол сваіх партарганізацый—магутны вагар нашых посьпехаў.

Чырвоная армія перарабляе, перавыхоўвае байца. Актыўным, сьвядомым удзельнікам сацыялістычнага будаўніцтва прыходзіць баец з арміі ў вёску на завод.

Але і знаходзячыся ў арміі, баец ня траціць сувязі са сваім заводам, сваім калгасам, сваёй вёскай. Баец—рабочы сочыць за выкананьнем прамфінпляну на заводзе. Калгасьнік сочыць за работай свайго калгасу, дапамагае яму парадай. Дастаткова сказаць, што пастанова ЦК і Саўнаркому аб хлебазагатоўках, жывёлазагатоўках і калгасным гандлі, новы

закон аб сельгаспадатку і іншыя пастановы ЦК і Саўнаркому чырвонаармеец прасоўваў у вёску з усёй настойлівасьцю і ўпартасьцю, растлумачваў іх, даваў парады аб спосабе іх рэалізацыі. Сотні і сотні пісем штодзенна ідуць з казармы ў вёску. І кожнае пісьмо—гэта сапраўды атэстат палітычнай зрэласьці нашага чырвонаармейца.

> **„Нідзе ў сьвеце няма такіх любоўных клапатлівых адносін з боку народу да арміі, як у нас. У нас армію любяць, яе паважаюць, аб ёй клапоцяцца“.** (Сталін, Прамова па поваду X гадавіны Чырвонай арміі, „Правда“ ад 28 лютага 1928 г.).

Чырвоную армію любіць і пролетарыят усяго сьвету, бо яна—узброеная апора ўсіх нацыянальнасьцяй СССР, яна яднае ў сваіх радох працоўных усіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць СССР, бо Чырвоная армія стаіць на варце інтарэсаў працоўных усяго сьвету і зьяўляецца верным вартавым СССР—ударнай брыгады і бацькаўшчыны сусьветнага пралетарыяту. Усім вядома, якую вялізарную дапамогу аказалі Чырвонай арміі рабочыя капіталістычных краін у час грамадзянскай вайны. І Чырвоная армія ведае, што і ў будучых ваенных выпрабаваньнях яна будзе мець стойкага саюзьніка ў тыле ворага.

Чырвоная армія па сваёй сутнасьці інтэрнацыянальна-клясавая армія. У гэтым духу яна выхоўваецца. Інтэрнацыянальнае выхаваньне—адзін з важнейшых элемэнтаў выхаваньня Чырвонай арміі.

Чырвоная армія ідзе ад посьпеху да посьпеху ў сваім баявым удасканаленьні. Але гэтыя посьпехі

ня кружаць ёй галаву. Кожны дзень прад'яўляе ўсё новыя і новыя, усё больш падвышаныя патрабаваньні. Гэтыя патрабаваньні Чырвоная армія прымае і з бальшавіцкай настойлівасьцю адказвае на іх новымі перамогамі.

## ПАЛІТЫКА МІРУ НЕ АЗНАЧАЕ АДКАЗУ АД АБАРОНЫ

Лёзунг нашай партыі „дагнаць і перагнаць“ стаў сьцягам мільёнаў, баявой праграмай пераможнага пралетарыяту нашай краіны.

Наша краіна зрабілася краінай самага буйнага ў сьвеце земляробства, цэнтральнай фігурай якога зьяўляецца калгасьнік. На базе суцэльнай калектывізацыі ліквідуюцца рэшткі кулацтва.

Арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў і саўгасаў, правільнай арганізацыяй брыгад, разгортваньнем спаборніцтва і ўдарніцтва мы забясьпечылі выкананьне пляну трэцяга бальшавіцкага севу і высокую ўраджайнасьць сацыялістычных палёў.

СССР пераваливае праз рашаючы рубеж—апошні год першай пяцігодкі. За тры гады пяцігодкі ўступілі ў строй вялізарныя прадпрыемствы, пабудаваныя па апошняму слову тэхнікі.

Гэта—гады сацыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі і далейшага падвышэньня абараназдольнасьці краіны.

Вялізарнейшыя перамогі сацыялізму прад'яўляюць Чырвонай арміі ўсё новыя і новыя патрабаваньні.

Трэба аўладаць баявой тэхнікай поўнасьцю. Клясавая барацьба ня скончылася. Мы ведаем, што і ў другой пяцігодцы няўхільна абвастрэньне клясавай барацьбы, асабліва ў асобных раёнах і на асобных вучастках сацыялістычнага будаўніцтва. Трэба вастрэй адточваць клясавую пільнасьць, бязупынна падвышаць палітычную сьвядомасьць байцоў.

Трэба мацней націснуць на палітработу, падвышаючы яе якасьць.

Трэба, каб усе заўсёды і цьвёрда памяталі аб капіталістычным акружэньні, аб рэальнай небясьпецы інтэрвэнцыі проці Савецкага саюзу.

Капіталістычныя дзяржавы рыхтуюцца да вайны.

Вось ужо тры гады, як сусьветная капіталістычная гаспадарка знаходзіцца ў стане нябачанага па вастрыні і глыбіні крызісу. Вытворчасьць усё скарачаецца. Армія беспрацоўных налічвае ў сваіх радох, паводле няпоўных даных, 48 млн., ня ўлічваючы калёній і паўкалёній. Крызіс кастлявай рукой голаду забірае мільёны працоўных гораду і вёскі.

Толькі адна галіна прамысловасьці няспынна расьце і працуе поўным ходам. Гэта—ваенная прамысловасьць.

Міжнародны імпэрыялізм рыхтуе новыя войны і ў першую чаргу напад на СССР—краіну, якая будуе сацыялізм. Рост узбраеньняў у капіталістычных краінах, падзеі на Далёкім Усходзе, нарады генштабаў нашых заходніх суседзяў у Парыжы пад старшынствам ген. Вэйгана, нарада генштабаў Малой антанты ў Празе пад кіраўніцтвам француская ген-

штабу, паездка Пілсудзкага ў Бесарабію, пашырэньне польска-румынскага ваеннага саюзу і прызначэньне Пілсудзкага галоўнакамандуючым злучаных польска-румынскіх армій, правакацыйныя стрэлы белагвардзейцаў Штэрна, Гаргулава і ўрэшце сабатаж разбраеньня, які ўпарта і сыстэматычна капіталістамі праводзіцца на Жэнэўскай канфэрэнцыі,—усё гэта выкрывае „миролюбие“ імпэрыялістаў і шырокую падрыхтоўку да новай вайны.

У чорнасоценных колах Японіі да гэтых часоў ідуць выступленьні проці СССР, заклікі да антысавецкай вайны. Вось выказваньні „знатака рускага пытаньня“ Камаіцы ў японскай газэце „Ніхон“.

> „Без вырашэньня савецкага пытаньня ня можа быць і гутаркі аб стварэньні раю ў Манчжурыі. Вырашэньне-ж манчжурскай праблемы залежыць ад вырашэньня сібірскай праблемы. Калі Манчжурыя азначае жыцьцё або сьмерць для Японіі, дык Усходняя Сібір азначае жыцьцё або сьмерць для Манчжурыі і Манголіі. Маючы незалежную Сібір, Японія забясьпечыць для сябе поўную эканамічную незалежнасьць ад астатняга сьвету. Пры наяўнасьці Манчжурыі, Манголіі і Сібіры Японіі няма чаго апасацца, нават калі ўвесь сьвет выступіць проці яе.
>
> ... Атрымаўшы Сібір, Японія на векі вякоў забудзе аб беспрацоўі і эканамічных крызісах.
>
> Чым хутчэй ажыцьцявіцца праграма проці СССР, тым лепш“.

Такія замыслы інтэрвэнтаў. І чым мацней перамога ў СССР, чым больш рашуча пралетарыят змагаецца за рэвалюцыйны выхад з крызісу, тым больш шалёнымі робяцца імпэрыялісты, тым актыў-

-ней працуюць правакатары вайны, тым мацней ляскаюць зброяй паны інтэрвэнты.

СССР цьвёрда і няўхільна вядзе палітыку міру.

„Але палітыка міру **не азначае**
**адмаўленьня ад абароны.**

Наадварот.

Краіна саветаў **нікому не дазволіць**
уварвацца на сваю тэрыторыю,
разбураць сацыялістычныя
прадпрыемствы,
таптаць калгасныя палі.

Парукай гэтаму служыць
**пастаянна ўзрастаючая магутнасьць**
узброенага аплоту пралетарскай
дзяржавы—**Чырвонай арміі.**

Абкружаная клапатлівасьцю
і ўвагай працоўных,
клясава зьяднаная

**Чырвоная армія**
**ахоўвае працу**
**і спакой**
**Савецкага саюзу".**

Варашылаў.

## ЗЬМЕСТ

